# Matra/KAP (Праграма Малых Праектаў)

**Паштовы адрас:**
(Пры Пасольстве Каралеўства Нідэрландаў у Варшаве)
Royal Netherlands Embassy
Matra/KAP
10, Kawalerii St.
00-468 Warsaw, Poland
**Тэл.:** + 48 22 559 12 00
**Факс:** + 48 22 840 26 38
**Вэб-сайт:** http://www.nlembassy.pl
**Эл. пошта:** war-matra@minbuza.nl

**Інфармацыя аб праграме Matra/ KAP у Беларусі:**
Ганаровы консул Вінакураў А.Д.
**Паштовы адрас:**
Вул. Усходняя, 133, офіс 503
**Для лістоў:** А.Я. 120, Мінск 113
**Тэл.:**375 (17) 262 53 23
**Факс:** 375 (17) 262 40 52
**Эл. пошта:** nlconsulate@mail.by

**Мэты дзейнасці Фонду:**
Matra – праграма Міністэрства замежных спраў Нідэрландаў. Яе мэта – узмацняць грамадзянскую супольнасць і рабіць яе больш разнастайнай праз падтрымку дзейнасці па далейшаму развіццю і ўзмацненню структур адкрытага, шматграннага і дэмакратычнага грамадства.
Праграма Matra/ KAP ажыццяўляецца праз 11 амбасадаў краін Цэнтральнай і Усходней Еўропы і Консульства ў Санкт-Пецярбургу. Праграма прымае заяўкі з 15 краін, у тым ліку з Беларусі.
Matra/KAP – праграма малых грантаў Пасольства дзейнічае ў вызначаных рамках.

**Накірункі дзейнасці, якія падтрымлівае Фонд:**
Каб атрымаць падтрымку Matra/KAP, праект павінен мець мэтай сацыяльныя змены ў накірунку адкрытага, шматграннага і дэмакратычнага грамадства. Змест праекту і яго мэты павінны адпавядаць мэтам Matra.
Прыклады актыўнасці:

- ініцыятыва па ўмацаванню верхавенства закону, абароне правоў чалавека, нацыянальных меншасцяў, грамадскі ўдзел у мясцовым кіраванні
- ініцыятывы па ўмацаванню няўрадавых арганізацый
- ініцыятывы па ўмацаванню ролі незалежных сродкаў масавай інфармацыі, наватарскія ініцыятывы па адукацыі і мастацтву, якія садзейнічаюць працэсам сацыяльнай трансфармацыі і станаўленню дэмакратыі

**Віды падтрымкі:**
- Малыя гранты

**Не падтрымліваюцца:**
- Праекты, якія ажыццяўляліся раней

- Дабрачынная дзейнасць у чыстым выглядзе (напрыклад, медыцынская дапамога, спансіраванне паставак харчавання ці будаўніцтва)
- Арганізацыя можа атрымаць не больш за адзін грант ў год

**Памер гранта:**
Да 15000 Еўра

**Як падаваць заяўку:**
Заяўка афармляецца на англійскай мове.
Заяўка павінна ўключаць:
- Інфармацыю пра арганізацыю і яе найбольш значныя дасягненні
- Дэталёвае апісанне мэтаў праекта і плануемай дзейнасці
- Указанне, як праект дапаможа ўзмацніць пазіцыі грамадзянскай супольнасці
- Апісанне мэтавай групы, працэдуры яе адбору
- Этапы ажыццяўлення праекта
- Падрябязны празрысты бюджэт у Еўра, які вызначае кожную крыніцу даходаў і выдаткаў; частку, ўнесеную арганізатарамі праекту і мэтавай групы; суму, якая патрабуецца ад Matra/KAP – дакладна з якой мэтай

У заяўцы неабходна пазначыць дакладныя сумы
- якія запатрабаваны ў іншых донараў (калі гэты праект ці яго асобныя часткі былі пададзеныя для разгляду іншым донарам)
- якія выдзелены іншымі донарамі (калі сродкі ад іх ужо атрыманы)

**Тэрмін разгляду заявак**
Заяўкі разглядаюцца ў кароткі тэрмін пры ўмове, што выкананы неабходныя працэдуры.

**Куды адсылаць заяўку:**
Заяўку трэба даслаць на электронную пошту: war-matra@minbuza.nl, ці ў Амбасаду Нідэрландаў у Варшаве ці Консульства Нідэрландаў у Мінске.

## Matra Training for European Cooperation – MTEC (Праграма “Адукацыя для еўрапейскага супрацоўніцтва)

**Паштовы адрас:**
P.O. Box 20105, 2500 EC
The Hague
**Тэл.:** +31 (0)70 778 81 39
**Факс:** +31 (0)70 335 27 86
**Вэб-сайт:** http://www.cross-agency.nl
**Эл.пошта:** crossonline@info.evd.nl

**Мэты праграмы:**
MTEC была распрацавана Міністэрствам замежных спраў Нідэрландаў для падтрымкі грамадзянскай супольнасці ў краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Мэты праграмы: (1) узмацніць партнёрства паміж краінамі Еўразвязу, (2) садзейнічаць устанаўленню добрасуседскіх адносін Еўразвязу з краінамі-кандыдатамі, (3) садзейнічаць добрасуседскім адносінам краін Еўразвязу з суседнімі краінамі на Усходзе і Поўдні.
Праграма таксама з'яўляецца інструментам для ўзмацнення двухбаковых адносін Нідэрландаў з іншымі краінамі на ўрадавым узроўні.

**Накірункі дзейнасці:**
Праграма MTEC (Matra Training for European Cooperation) – гэта праграма грантаў, прызначаная для арганізацыі адукацыйнымі ўстановамі ў Нідэрландах навуковых курсаў для спецыялістаў з мэтавых краін праграмы МАТРА.
MTEC прапануе адукацыйныя курсы (падрабязней).

Для кожнага курсу існуе свій тэрмін падачы заяўкі. Адбор кандыдатаў з ліку студэнтаў вузаў, асоб з вышэйшай адукацыяй праводзіцца па выніках кункурсу.

Конкурсны адбор кандыдатаў здзяйсняе Урадавае агенцтва Нідэрландаў па супрацоўніцтву ў галіне адукацыі з краінамі Цэнтральнай і Усходней Еўропы EVD/CROSS.

Кожны курс уключае тры кампаненты:

- тэарэтычны кампанент, асnованы на еўрапейскім заканадаўстве;
- практычны кампанент, мэтай якога з'яўляецца развіццё навыкаў (напрыклад, кіраванне праектам, SWOT-аналіз, распрацоўка праектаў дакументаў, метады прэзентацыі);
- наведванні арганізацый.

**Віды падтрымкі:**
Урад Нідэрландаў нясе ўсе расходы (праезд у абодвы бакі, пражыванне і харчаванне, віза, страхаванне, кошт навучання і вучэбных матэрыялаў)

**Як падаваць заяўку:**
Інформацыя пра курсы, умовы ўдзелу і патрабаванні размяшчаюцца на сайце (у выглядзе брашур) кожны раз, калі абвяшчаецца конкурс – прыкладна за 3 месяцы да пачатку курсаў. Форму заяўкі можна знайсці на спецыяльнай старонцы сайта: Downloads-page.

**Тэрмін разгляду заявак**
Усе асобы, якія падавалі заяўкі, будуць праінфармаваны аб выніках не пазней, як праз дзве нядзелі пасля апошняга тэрміну падачы заявак.

**Куды адсылаць заяўку:**
Заяўка падаецца праз сайт і адначасова адсылаецца (у выглядзе друкаванага дакументу) у Пасольства Каралеўства Нідэрландаў у краіне канкурсанта.
Да заяўкі неабходна прыкласць заяву ад працадаўцы канкурсанта.

# ПОЛЬШЧА

## The Development Co-operation Department (Polish Aid) (Аддзел супрацоўніцтва ў галіне развіцця МІД Польшчы (Польская дапамога)

**Паштовы адрас:**
Ministry of Foreign Affairs of the Republic of Poland
Development Co-operation Department
Al. J. Ch. Szucha 23
00-580 Warsaw, Poland
**Тэл.:** +48 22 523 8073
**Факс:** +48 22 523 8074
**Вэб-сайт:** http://www.polskapomoc.gov.pl
**Эл.пошта:** dwr@msz.gov.pl

**Мэты дзейнасці Фонду:**
Выкананне ўласных праектаў; падтрымка рынчнай экономікі ў краінах у пераходны перыяд; садзейнічанне супрацоўніцтву з Еўропай і еўрапейскай інтэграцыі.

**Накірункі дзейнасці, якія падтрымлівае Фонд:**

- дэмакратыя
- правы чалавека
- палітычныя і эканамічныя перабудовы
- супрацоўніцтва
- адукацыя
- гуманітарная дапамога

Звяртацца да Фонду могуць:
Незалежныя сродкі масавай інфармацыі, арганізацыі грамадзянскай супольнасці, моладзевыя арганізацыі, арганізацыі, якія працуюць у галіне адукацыі, неабароненыя групы насельнцтва.

**Віды падтрымкі:**

- Гранты

**Як падаваць/ куды адсылаць заяўку:**
Патрабаванні да ўдзельнікай конкурсу, афармленню дакументаў, срокі падачы заяўкі, форма заяўкі для праектаў па Праграме дапамогі ГА размяшчаюцца на сайце Аддзела супрацоўніцтва ў час абвяшчэння конкурсу. Усе дакументы па конкурсу афармляюцца на польскай мове.

Форму заяўкі для праектаў па Праграме малых грантаў можна атрымаць у Пасольстве Польшчы. Заяўку трэба падаваць у Пасольства на англійскай ці польскай мове. Апошні срок падачы заяўкі – канец кожнага года.

**Тэрмін разгляду заявак**
Заяўкі разглядаюцца на працягу месяцу пасля закрыцця конкурсу.

## SALTO-YOUTH

**Паштовы адрас:**
***SALTO Eastern Europe and Caucasus Resource Centre (Poland)***
Polska Narodowa Agencja Programu "Młodzież w działaniu"
ul. Mokotowska 43, PL-00-551 Warsaw, Poland
**Тэл.**: +48 22 46 31 462
**Факс**: +48 22 46 31 031
**Эл.пошта**: eeca@salto-youth.net
**Вэб-сайт**: http://www.salto-youth.net/
http://www.salto-youth.net/rc/eeca/about/

**Мэты дзейнасці і накірункі дзейнасці, якія падтрымлівае Фонд:**
Праграма SALTO (Support, Advanced Learning and Training Opportunities— Дапамога, глыбокае вывучэнне, магчымасці трэнінга) – гэта сетка ініцыятыў, якія працуюць у межах Еўрапейскай праграмы "Моладзь" («Youth») і праграмы "Моладзь у дзеянні" («Youth in Action»). Ініцыятыва SALTO-YOUTH дае моладзі з краін-удзельніц праграмы "Моладзь у дзеянні" магчымасць групавой працы па іх прыярытэтных накірунках.

**SALTO-YOUTH.net** – гэта сетка з 8 рэсурсных цэнтраў, якія працуюць з моладдзю ў прыярытэтных для Еўропы галінах. Сетка арганізуе навучанне, спрыяе наладжванню кантактаў, аказвае падтрымку арганізацыям і нацыянальным ведамствам у межах праграмы Еўрапейскай камісіі "Моладзь у дзеянні".

SALTO прапануе шматбаковыя Навучальныя курсы ў супрацоўніцтве з Нацыянальнымі агенцтвамі/ каардынатарамі**.**
SALTO супрацоўнічае з Еўрапейскім моладзевым форумам

**Як падаваць заяўку:**
Заяўкі на ўдзел падаюцца ў рэжыме он-лайн пасля рэгістрацыі на партале SALTO-YOUTH  www.youth.org.pl.

Больш падрабязную інфармацыю можна таксама знайсці па спасылках:
http://www.salto-youth.net/news/
www.salto-youth.net
www.youth-partnership.net
www.youthforum.org

## The Queen Jadwiga Fund (Фонд імя Каралевы Ядзвігі)

**Паштовы адрас:**
***Office of Public Affairs***
ul. Piłsudskiego 8/1, 31-109 Kraków
**Тэл.:** +(12) 430-10-12;(12) 663 14 17
**Факс:** +(12) 430 10 30
**Эл.пошта:** info@uj.edu.pl
**Вэб-сайт:** http://www.bi.uj.edu.pl/wlasne-fundusze-stypendialne/jadwiga

**Мэты дзейнасці фонду:**
Мэта Фонду – даць стыпендыі на навучанне маладым навукоўцам і дактарантам з краін Цэнтральнай і Усходней Еўропы, Балканскіх краін; ажыццяўляць абмен і падтрымліваць цесныя сувязі паміж навукоўцамі з гэтай часткі Еўропы; зрабіць Кракаў цэнтрам навучання лепшых навукоўцаў Усходу і Захаду.

**Накірункі дзейнасці, якія падтрымлівае Фонд:**
Прымаюцца дакументы на атрыманне стыпендыі фонду імя Каралевы Ядзвігі для навучання ў Ягелонскім універсітэце ў Кракаве. Удельнічаць у конкурсе могуць маладыя навукоўцы з краін Цэнтральнай і Ўсходней Еўропы, якія жадаюць займацца навуковай працай у г. Кракаве.

**Віды падтрымкі:**
- стыпендыя
- медыцынская страхоўка
- аплата пражывання

Працяг стыпендыі складае ад аднаго да шасці месяцаў у залежнасці ад характару навуковага праекту.

**Памер гранта:**
Памер стыпендыі: 1500 польскіх злотых на месяц. Стыпендыяты таксама артымоўваюць месца для пражывання і медыцынскую страхоўку на ўвесь час знаходжання ў Польшчы.

**Як падаваць заяўку:**
Для ўдзелу ў конкурсе неабходна падрыхтаваць наступныя дакументы:
- ліст-заяўку на адрас рэктара Ягелонскага ўніверсітэту
- CV
- запоўненую форму заяўкі
- інфармацыю пра навуковыя дасягненні апліканта, у тым ліку спіс публікацый
- падрабязнае апісанне запланаванай даследчай працы ва ўніверсітэце
- рэкамендацыю ад навуковага супрацоўніка Ягелонскага ўніверсітэту (пажадана)
- копію старонкі пашпарту з фатаграфіяй

**Тэрмін разгляду заявак**
Інфармацыя размяшчаецца на сайце падчас абвяшчэння конкурсу.

**Куды адсылаць заяўку:**
Інфармацыя размяшчаецца на сайце падчас абвяшчэння конкурсу.

# УКРАЇНА

## Міжнародний фонд "Відродження" (Міжнародны фонд «Адраджэнне»), Кіеў

**Паштовы адрас:**
Украіна, Кіеў, вул. Арцёма, 46, цэнтральны офіс
**Тэл.:** +380 (44) 461 97 09
**Факс:** +380 (44) 486 76 29
**Вэб-сайт:** http://www.irf.kiev.ua
**Эл.пошта:** irf@irf.kiev.ua

**Для кантактаў:**
Яўген Быстрыцкі, выканаўчы дырэктар
Эл. пошта: irf@irf.kiev.ua

Аляксандр Беца
Старэйшы мэнэджэр праектаў
**Тэл.:** +380 (44) 482 24 29
**Факс:** +380 (44) 486 76 29
**Эл.пошта:** betsa@irf.kiev.ua

**Мэты дзейнасці Фонду:**
Міжнародны фонд "Адраджэнне" заснаваны ў 1990 годзе. Ён уваходзіць у сетку фондаў Інстытуту адкрытага грамадства, заснаванага Дж. Сорасам.
Фонд патдрымлівае ініцыятывы, якія спрыяюць развіццю еўрапейскай інтэграцыі грамадства, развіццю сістэмы абароны правоў, умацаванню прынцыпаў верхавенства закону, правядзенню рэформы судзебнай і пенітэнцыярнай сістэм, развіццю грамадскай актыўнасці нацыянальных меншасцяў і інш.

**Накірункі дзейнасці, якія падтрымлівае Фонд:**
- праграмы і ініцыятывы ў галіне асветы, грамадзянскага супольніцтва, незалежных сродкаў масавай інфармацыі
- развіцце віртуальных сетак (Інтэрнет, электронная пошта)
- выдаўніцтва
- правы чалавека
- мастацтва і культура
- рэфармаванне сацыяльнай, прававой і эканамічнай сістем

**Віды падтрымкі:**
- Гранты
- Па-за-конкурсная падтрымка праектаў

**Не падтрымліваюцца:**
- праекты, якія не адпавядаюць прыярытэтам праграмнай дзейнасці Фонду
- праекты, якія маюць камерцыйны характар
- праекты гуманітарнай дапамогі
- праекты фізічных асобаў, палітычных партый ці рэлігійных груп

**Як падаваць заяўку:**
Формы заявак размяшчаюцца на сайце ў раздзеле “Конкурсы” падчас абвяшчэння адпаведнага конкурсу. Для кожнай праграмы існуюць асобныя формы заявак, якія не супадаюць з формай агульнага ўзору.

- Праекты разглядаюцца праграмнымі Радамі і Праўленнямі Фонду
- Пра вынікі разгляду апліканту паведамляюць у пісьмовым выглядзе кіраўнікі адпаведных праграм
- Падставы прынятага рашэння не паведамляюцца

Цікавыя інавацыйныя праекты могуць атрымаць падтрымку па-за конкурсамі ці па-за межамі фінансавай падтрымкі, вызначанай умовамі аб’яўленага конкурсу. Для такіх праектаў падаецца заяўка па форме, якая існуе для па-за-конкурсных праектаў (гл.сайт).
Заяўкі трэба дасылаць на адрас: 04053 Кіеў, вул. Арцёма, 46, аддзел кіравання праектамі МФВ. Фонд афіцыйна падцвердзіць атрыманне праекту і яго рэгістрацыю лістом, які дасылаецца апліканту не пазней, чым праз 7 дзён пасля атрымання.

**Куды дасылаць заяўку:**
Для ўдзелу ў конкурсе трэба даслаць праект поштай на адрас: 04053 Кіеў, вул. Арцёма, 46, аддзел кіравання праектамі МФВ.

# ФРАНЦЫЯ

## European Institutes for Advanced Study Fellowship Programme (Стыпендыяльная праграма Еўрапейскіх інстытутаў спецыяльных даследванняў)

**Паштовы адрас:**
EURIAS
At the RFIEA Foundation
54, boulevard Raspail
75006 Paris - FRANCE
**Тэл.:** +33 (0) 1 49 54 22 55
**Эл.пошта:** mylene.trouve@eurias-fp.eu
**Вэб-сайт:** http://www.eurias-fp.eu/home

**Для кантактаў:**
Мілена Трувэ (Mrs Mylène Trouvé), кіраўнік праграмы

**Мэты дзейнасці Фонду:**
Стыпендыяльная праграма Еўрапейскіх інстытутаў спецыяльных даследванняў (EURAS) – гэта праграма міжнародных даследванняў, якая прапаноўвае стыпендыі для даследванняў у галіне гуманітарных і сацыяльных навук ва ўніверсітэтах у г. Берліне, Хельсінкі, Бруселі, Бухарэсце, Будапешце, Кембрыджы, Парыжы, Вене і некаторых іншых гарадах. На 2013/2014 навучальны год прапаноўваюцца 32 стыпендыі.

**Накірункі дзейнасці, якія падтрымлівае Фонд:**
- Гуманітарныя навукі
- Сацыяльныя навукі

**Віды падтрымкі:**
- Стыпендыя
- Аплата пражывання
- Кампенсацыя расходаў на праезд

**Памер гранта:**
Ад 26000 да 38000 Еўра

**Як падаваць заяўку:**
Заяўка падаецца праз сайт у рэжыме онлайн: www.eurias-fp.eu
Глядзіце таксама: http://www.eurias-fp.eu/how-apply

Падрабязную інфармацыю глядзіце на сайце: www.eurias-fp.eu

# ШВЕЙЦАРЫЯ

## The Global Fund to Fight AIDS, Tuberculosis and Malaria (Сусветны фонд барацьбы са СНІД, туберкулёзам і малярыяй)

**Паштовы адрас:**
Geneva Secretariat
8, Chemin de Blandonnet
1214 Vernier, Geneva, Switzerland
**Тэл.:** +41 58 791 1700
**Факс:** +41 58 791 17 01
**Эл.пошта:** info@theglobalfund.org
**Вэб-сайт:** http://www.theglobalfund.org/

**Для кантактаў:**
Алена Зайцава (Elena.Zaytseva)
Мэнэджэр па Усходней Еўропе і Цэнтральнай Азіі
**Эл.пошта:** Elena.Zaytseva@theglobalfund.org

**Мэты дзейнасці Фонду:**
Фонд, які з 2002 г. з’яўляецца галоўнай крыніцай фінансавання адпаведных праграм, супрацоўнічае з дзяржаўнымі органамі, няўрадавымі арганізацыямі, прыватнымі асобамі ў барацьбе са СНІДам, туберкулёзам і малярыяй.

**Накірункі дзейнасці, якія падтрымлівае Фонд:**
- Паляпшэнне сістэмы аховы здароў’я
- Удасканаленне інфраструктуры
- Падрыхтоўка і навучанне персаналу

**Віды падтрымкі:**
Гранты

**Як падаваць заяўку:**
Фонд дае гранты для падтрымкі праграм па прафілактыцы інфекцый, а таксама лячэнню, уходу і падтрымке людзей, якія пакутуюць ад ВІЧ/ СНІД, сухотаў і малярыі.

Падрабязную інфармацыю гл. на сайце:
http://www.theglobalfund.org/ru/activities/application/

**Куды адсылаць заяўку:**
The Manager
Country Proposals Team
The Global Fund to Fight AIDS, Tuberculosis and Malaria
8 Chemin de Blandonnet
CH-1214 Vernier-Geneva
Switzerland

# ШВЕЦЫЯ

## Forum SYD (Форум СІД)

**Паштовы адрас:**
Forum SYD
Box 15407
S-104 65 Stockholm, Sweden / Suecia
Besoksadress / visit: Katarinavagen 20,
**Тэл.:** +46 8 506 370 00
**Факс:** +46 8 506 370 99
**Вэб-сайт:** www.forumsyd.org
**Эл.пошта:** forum.syd@forumsyd.org

***Еўрапейскі офіс:***
**Gunilla Davidsson**
Regional Director
Visit adress: Gospodar Jovanova no 10
Belgrade 11 000, Serbia
**Тэл.:** + 381 11 30 36 004; +381 11 29 10 200
**Эл.пошта:** gunilla.davidsson@forumsyd.org

**Мэты дзейнасці Фонду:**
Падтрымка грамадзянскай супольнасці як сілы, якая садзейнічае ўстойліваму развіццю грамадства.
Forum SYD – аб'яднанне па парасонавым прынцыпе шведскіх недзяржаўных арганізацый. Гэта маладзёжныя, экалагічныя, дабрачынныя арганізацыі, спартыўныя, культурныя таварыствы і г.д. Forum SYD арганізуе курсы, якія садзейнічаюць абмену новымі ідэямі, а таксама каардынацыі маладзёжных абменаў.
Форум SYD дзейнічае сумесна з сеткай рэсурсных цэнтраў НДА ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе.

На Беларусі Форум SYD ажыццяўляе спецыяльную праграму, накіраваную на падтрымку трэцяга сектара.
Мэты праграмы:

- развіваць супрацоўніцтва паміж шведскімі і беларускімі рэсурснымі цэнтрамі НДА шляхам умацавання грамадзянскай супольнасці і прагрэсіўных дэмакратычных сіл Беларусі;
- садзейнічаць павелічэнню ведаў сярод шведскіх НДА аб развіцці сітуацыі на Беларусі і пашыраць іх супрацоўніцтва з беларускімі НДА;
- размяркоўваць грашовую дапамогу, прымаць заяўкі, якія тычацца прызначэння грашовай дапамогі, рабіць вывады і складаць справаздачы па выніках праектаў.

**Накірункі дзейнасці, якія падтрымлівае Фонд:**

- фарміраванне грамадскай думкі (уплыў на погляд на праблемы глабальнай справядлівасці, умоў існавання і развіцця недзяржаўных арганізацый, ролі грамадзянскай супольнасці ў развіцці супрацоўніцтва)

- супрацоўніцтва паміж мясцовымі недзяржаўнымі арганізацыямі як часткі межнароднай сеткі. Forum SYD удзельнічае ў рэалізацыі праграм сумесна з мясцовымі НДА
- стварэнне магчымасцей

**Віды падтрымкі:**

- Падтрымка як падрыхтоўчай работы над праектам, так і самога праекта
- Арганізацыя сустрэч, курсаў навучання, абмену вопытам паміж працаўнікамі з розных арганізацый і сетак
- Публікацыі па гендэрных, экалагічных праблемах, фінансавых абавязках і тарговых пытаннях

**Як падаваць заяўку:**

Да таго, як будзе разгледжана кожная заяўка, усходне–еўрапейская група ажыццяўляе кансультацыі па патрабаваннях, якія прад'яўляюцца да праектаў.
Патрабаванні да заявак могуць карэкціравацца ў залежнасці ад сітуацыі ў кожнай асобна ўзятай краіне. Каб прыняць удзел у праекце "Падтрымка недзяржаўных арганізацый" неабходна падаць наступную інфармацыю на рускай і англійскай мовах (пажадана ў электронным выглядзе):

- агульная інфармацыя пра арганізацыю (назва, адрас, кантактная інфармацыя, канкрэтная асоба, калі была створана арганізацыя, колькасць сябраў);
- ці зарэгістраваная арганізацыя, яе статус;
- місія арганізацыі, накірунак дзейнасці, прыклады рэалізаваных праектаў;
- апішыце, якога кшталту шведскую арганізацыю вы хацелі б мець сваім партнёрам;
- які праект (праекты) вы хацелі б прапанаваць для сумеснай распрацоўкі са шведскімі партнёрамі;
- моцныя і слабыя бакі вашай арганізацыі;
- эканамічныя асновы існавання вашай арганізацыі.

Інфармацыя, якую вы падаеце каардынатару – папярэдняя. Яна павінна быць ў сціслай і выразнай форме (1 старонка тэксту).

Падрабязную інфармацыю адносна падачы заявак можна знайсці ў спецыяльных інфармацыйных матэрыялах Forum SYD.

**Тэрмін падачы заявак**:

15 студзеня і 1 жніўня кожнага года.

## The Raoul Wallenberg Institute (Інстытут Рауля Валенберга)

**Паштовы адрас:**
Raoul Wallenberg Institute
Stora Gråbrödersg. 17 B
P.O. Box 1155
SE-221 05 Lund, Sweden
**Тэл.:** +46 46 222 12 00
**Факс:** +46 46 222 12 22
**Вэб-сайт:** http://www.rwi.lu.se/index.shtml
http://www.studyinsweden.se/Home/

**Мэты дзейнасці Фонду:**
Інстытут правоў чалавека і гуманітарнага права імя Рауля Валенберга (RWI) – гэта незалежная навуковая ўстанова, якая займаецца праблемамі садзейнічання развіццю правоў чалавека праз даследванні і адукацыю. Інстытут быў заснаваны ў 1984 г. на базе юрыдычнага факультэту Універсітэта Лунда (Lund University), Швецыя.
Фінансаванне Інстытута Рауля Валенберга забяспечваецца Швецкім агенствам па міжнароднаму развіццю (SIDA).

**Накірункі дзейнасці, якія падтрымлівае Фонд:**
Інстытут Рауля Валенберга арганізуе тры магістарскія праграмы і міждысцыплінарныя праграмы па правах чалавека на пост-адукацыйным узроўні; забяспечвае ўмовы для даследванняў, якія праводзяцца навукоўцамі і студэнтамі; праводзіць трэнінгі і рэалізуе праграмы ў галіне правоў чалавека за мяжой. Таксама Інстытут мае самую вялікую ў Еўропе бібліятэку выданняў па правах чалавека, займаецца даследчай і выдавецкай дзейнасцю.

У Беларусі Інстытут Рауля Валенберга супрацоўнічае з Беларускім дзяржаўным універсітэтам і іншымі акадэмічнымі ўстановамі з мэтай прасоўвання адукацыі ў галіне правоў чалавека, гуманітарнага права, гендэрнай роўнасці праз развіццё патэнцыялу ўніверсітэцкіх выкладчыкаў, распрацоўку навучальных праграм, падтрымку даследванняў, абменаў і навучальных візітаў.

**Віды падтрымкі:**
- Стыпендыі для навучання студэнтаў з-за мяжы ў Швецыі.
  Падрабязная інфармацыя пра ўмовы і час навучання, тыпы стыпендый размешчана на спецыяльным сайце Studyinsweden.se
- Правядзенне трэнінгаў
- Рэалізацыя ўласных праграм

**Не падтрымліваюцца:**
Дзейнасць Інстытута не прадугледжвае афіцыйных справаздач па эфектыўнасці дзяржаўных праграм, маніторынгу адпаведнасці іншых метадаў у галіне правоў чалавека, якія могуць мець супярэчлівы характар.

**Як падаваць заяўку:**
Умовы падачы заявак, тэрмін разгляду, іншыя патрабаванні залежаць ад тыпу стыпендый і мэты навучання і інш. Уся неабходная інфармацыя даступна на сайце Studyinsweden.se.

## Swedish International Development Cooperation Agency (SIDA) (Шведскае агентства па міжнароднаму развіццю (СІДА)

**Паштовы адрас:**
Valhallavдgen 199
105 25 Stockholm
T-bana Karlaplan
**Тэл.:** (+46) 8 698 50 00
**Факс:** (+46) 8 20 88 64
**Вэб-сайт:** http://www.sida.org
**Эл.пошта:** sida@sida.se

**Мэты дзейнасці Фонду:**
СІДА – гэда ўрадавае агентства Швецыі, у якім налічваецца больш за 650 супрацоўнікаў. СІДА размяркоўвае свае сродкі праз няўрадавыя арганізацыі, шматбаковае супрацоўніцтва (у тым ліку з Еўрасаюзам). СІДА зацікаўлена ў тым, каб не проста фінансаваць праекты асобных арганізацый (у тым ліку ГА), а падтрымліваць праекты міжнароднага супрацоўніцтва.

Сіда падтрымлівае праекты, якія краіны-партнеры лічаць важнымі. Перш за ўсе, СІДА падтрымлівае швецкія грамадскія аб'яднанні. Арганізацыі іншых краін маюць падтрымку, у аснoўным, праз швецкіх партнераў.

**Накірункі дзейнасці, якія падтрымлівае Фонд:**
- Эканамічнае развіццё
- Эканамічная і сацыяльная роўнасць
- Эканамічная і палітычная незалежнасць
- Развіццё дэмакратыі
- Ахова навакольнага асароддзя
- Гендэрная роўнасць

**У Беларусі** СІДА падтрымлівае арганізацыі, якія працуюць у наступных накірунках:
- Дэмакратыя, грамадзянская супольнасць, правы чалавека, сродкі інфармацыі
- Культура, адукацыя, даследванні
- Экалогія
- Сацыяльныя паслугі і ахова здароў'я
- Прыватная таргоўля і вытворчасць

**Віды падтрымкі:**
- Гранты і крэдыты
- Арганізацыя супрацоўніцтва
- Арганізацыя праграм навучання
- Супрацоўніцтва ў навуковых даследваннях

**Як падаваць заяўку:**
Інфармацыя аб конкурсах, стыпендыях, умовах удзелу і інш. размяшчаецца на сайце СІДА ў час паведамлення аб адпаведным конкурсе.

# ПРАДСТАЎНІЦТВЫ Ў БЕЛАРУСІ

## ChildFund International Representative Office in Belarus (Прадстаўніцтва Хрысціянскага дзіцячага фонду ў Рэспубліцы Беларусь)

**Паштовы адрас:**
220092 Мінск, пр. Пушкіна, 39, офіс 16
**Тэл./факс:** (+375 17) 257 04 94, 257 77 08, 257 77 09, 257 29 25
**Вэб-сайт:** http://ccf-belarus.org
**Эл. пошта:** office@ccf-belarus.org

**Мэты дзейнасці Фонду:**
Хрысціянскі дзіцячы фонд (ChildFund International) – міжнароднае агенцтва развіцця, якое аказвае дапамогу больш, чым 15 мільёнам дзяцей з 32 краін свету. Прадстаўніцтва Хрысціянскага дзіцячага фонду ў Рэспубліцы Беларусь працуе з 1993 г., рэалізуе праграмы і праекты, якія накіраваны на стварэнне ўмоў для паўнавартаснага эмацыянальнага, фізічнага і сацыяльнага развіцця дзіцяці ў сям'і і сацыяльным асяроддзі.

**Накірункі дзейнасці, якія падтрымлівае Фонд:**

- прафілактыка сацыяльнага сіроцтва;
- псіхалагічная і сацыяльная адаптацыя дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі
- папярэджанне жорсткага абыходжання з дзецьмі;
- фарміраванне здаровага ладу жыцця;
- супрацьдзеянне распаўсюджванню ВІЧ-інфекцыі;
- развіццё валанцёрства;
- навучанне бацькоўскім навыкам;
- падрыхтоўка спецыялістаў сацыяльных устаноў.

**Віды падтрымкі:**

- метадычная падтрымка
- кансультацыі
- інфармацыйная дапамога
- фінансавая дапамога

дзецям з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця і іх бацькам, працаўнікам устаноў сістэмы адукацыі, грамадскім аб'яднанням

**Куды дасылаць заяўку:**
220092 Мінск, пр. Пушкіна, 39, офіс 16
**Эл. пошта:** office@ccf-belarus.org

## European Union (Еўрапейскі Саюз)

**Паштовы адрас:**
***Аддзяленне прадстаўніцтва Еўрапейскай камісіі ў Беларусі:***
Вул. Энгельса, 34а/2
220030 Мінск, Беларусь
**Тэл.:** +375 17 328 66 13
**Факс:** + 375 17 289 12 81
**Вэб-сайт:** www.delblr.ec.europa.eu
**Эл.пошта:** delegation-belarus@eeas.europa.eu
delegation-belarus-press@eeas.europa.eu (прэса і інфармацыя)
http://eeas.europa.eu/delegations/belarus

**Мэты дзейнасці:**
Еўрапейскі Саюз (ЕС) у межах палітыкі добрасуседства падтрымлівае працэсы палітычных, эканамічных і сацыяльных рэформ у суседзяў і зблiжае іх з ЕС, асабліва праз паступовую эканамічную інтэграцыю.

Юрыдычная аснова для аказання тэхнічнай дапамогі Беларусі – рамачнае пагадненне паміж Камісіяй Еўрапейскіх Супольніцтваў (КЕС) і Урадам Рэспублікі Беларусь ад 18 снежня 2008 г.

Урад Рэспублікі Беларусь узаемадзейнічае з Еўракамісіяй праз Нацыянальнага каардынатара Праграмы TACIC у Беларусі (праграма TACIC пачалася ў 1991 г. як ініцыятыва Еўрасаюза для краін Усходней Еўропы і Сярэдняй Азіі).

**Накірункі дзейнасці, якія падтрымлівае ЕС:**
Супрацоўніцтва паміж Еўрапейскім Саюзам і Беларуссю заснаванае на рашэннях, якія паслядоўна прымаюцца Саветам ЕС па замежных справах, у тым ліку рашэннях, прынятых 31 студзеня 2011 года. Праекты, якія ажыццяўляюцца ў Беларусі пры падтрымцы ЕС, грунтуюцца на асноўных прынцыпах Стратэгіі ў дачыненні да краіны на 2007-2013 гг. і Нацыянальнай індыкатыўнай праграмы на 2012-2013 гг. Гэтыя дакументы прадугледжваюць 2 прыярытэтныя сферы тэхнічнага супрацоўніцтва ЕС-Беларусь: 1) добрае кіраванне і кантакты паміж людзьмі, 2) эканамічная мадэрнізацыя.
ЕС супрацоўнічае з Беларуссю ў наступных галінах: энергетыка, ахова навакольнага асяроддзя, бяспека прадуктаў харчавання, развіццё на рэгіянальным і мясцовым узроўнях, вышэйшая адукацыя, а таксама развіццё грамадзянскай супольнасці, СМІ і сацыяльнай сферы. Частка дапамогі прызначана рэгіёнам, якія пацярпелі ад Чарнобыльскай аварыі, а таксама накіраваная на забеспячэнне ядзернай бяспекі. Акрамя таго, Беларусь удзельнічае ў рэгіянальных праектах і праграмах супрацоўніцтва прыгранічных рэгіёнаў у наступных галінах: транспарт, кіраванне межамі, дзейнасць мытных службаў, міграцыя і прадастаўленне прытулку, барацьба супраць гандлю людзьмі і наркотыкамі, пераадоленне наступстваў прыродных і тэхнагенных катастроф. Беларусь прымае ўдзел у працы трох праграм супрацоўніцтва прыгранічных рэгіёнаў: "Польшча-Беларусь-Украіна", "Латвія-Літва-Беларусь" і "Рэгіён Балтыйскага мора". Шматбаковы фармат Усходняга партнёрства таксама дае Беларусі магчымасць удзельнічаць у праграмах рэгіянальнага ўзроўню.

Рэалізуюцца і некалькі праектаў у сферы захавання нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыны і яе выкарыстання ў развіцці рэгіёнаў Беларусі і суседніх краін. Пачала працаваць Праграма "Культура" Усходняга партнёрства, у рамках якой, у прыватнасці, Беларусь будзе ўдзельнічаць у рэалізацыі буйнога праекта па развіцці прафесійнай і аматарскай фатаграфіі ў шасці краінах рэгіёну.

Праекты Еўрапейскага Саюза ў Беларусі можна паглядзець на спасылцы: http://eeas.europa.eu/delegations/belarus/documents/eu_activities_in_belarus.pdf

**Віды падтрымкі:**

- Гранты

Памер гранта, умовы ўдзелу, патрабаванні да ўдзельнікаў, неабходныя дакументы і інш. залежаць ад канкрэтнага конкурсу і размяшчаюцца на сайце кожны раз пры яго абвяшчэнні. Інфармацыю пра плануемыя і абвешчаныя конкурсы можна знайсці тут:
https://webgate.ec.europa.eu/europeaid/online-services/index.cfm?ADSSChck=1232641664085&do=publi.welcome&userlanguage=en

## Goethe-Institut (Інстытут імя Гётэ)

**Паштовы адрас:**
Goethe-InstitutMinsk
вул. Веры Харужай, 25/3
220123 Мінск
**Тэл.:** + 375 17 2377119
**Факс:** + 375 17 2374679
**Маб.:** +375 29 1434355
**Маб.:** +375 29 2505066
**Эл.пошта:** info@minsk.goethe.org
**Вэб-сайт:** http://www.goethe.de/ins/by/min/beindex.htm

**Мэты дзейнасці Фонду:**
Інстытут імя Гётэ (Нямецкі культурны цэнтр імя Гёте) — гэта нямецкая няўрадавая арганізацыя, чыей місіяй з'яўляецца садзейнічанне распаўсюджванню нямецкай мовы і культуры па-за межамі нямецкамоўных краін. Найбольш важнай задачай з'яўляецца навучанне нямецкай мове як замежнай. Таксама мэтай Інстытута Гёте з'яўляецца ўзмацненне міжкультурнага ўзаемадзеяння з Германіяй, якое ўключае не толькі абмен фільмамі, музыкай, літаратурай, але і грамадскімі каштоўнасцямі. Большасць бюджэту Інстытута Гётэ складаецца з грантаў, атрыманых ад Міністэрства замежных спраў Германіі і Нямецкай прэс-службы.

**Інстытут Гётэ працуе ў наступных накірунках:**
- Выкладанне нямецкай мовы
  - Нямецкая мова як замежная ў сістэме падрыхтоўкі спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй
- Вывучэнне нямецкай мовы
  - Курсы (тэматычныя курсы, курсы для падлеткаў, курсы для супрацоўнікаў фірм, завочныя курсы)
  - Экзамены (вынікі маюць міжнароднае прызнанне)
  - Ранняе навучанне нямецкай мове
  - Летнія школы ў Мінску і Горках
- Павышэнне кваліфікацыі выкладчыкаў нямецкай мовы
- Бібліятэка для выкладчыкаў нямецкай мовы

**Віды падтрымкі:**

Інстытут імя Гётэ ў Беларусі мае розныя прапановы, якія дазволяць Вам вывучаць у Беларусі нямецкую мову і пазнаёміцца з нямецкай культурай і грамадствам. Інстытут імя Гётэ прапануе курсы нямецкай мовы і экзамены ў адпаведнасці з сусветнымі стандартамі якасці Інстытута імя Гётэ.

Цэнтры навучальных сродкаў Інстытута імя Гётэ ў бібліятэках або іншых установах прапануюць выкладчыкам нямецкай мовы ў Беларусі пазнаёміцца з рознымі падручнікамі і іншай літаратурай, прызначанай для заняткаў па нямецкай мове як замежнай.

У Нямецкім чытальным зале вы знойдзеце інфармацыю, друкаваныя, аудыё- і відэа-матэрыялы з Германіі і пра Германію.

Кансультант па нямецкай мове аказвае кансультацыйную дапамогу па ўсім пытанням выкладання нямецкай мовы.

Аддзел супрацоўніцтва ў галіне адукацыі і нямецкай мовы аказвае кансультацыйную і інфармацыйную падтрымку настаўнікам, школам і іншым ўстановам адукацыі рэспублікі па пытаннях выкладання нямецкай мовы:

**Інстытут Гётэ рэалізуе наступныя праграмы і праекты:**

- Праект “Школы: партнёры будучыні”
  Ініцыятыва Міністэрства замежных спраў Федэратыўнай Рэспублікі Германія. Каардынатар у Беларусі – Пасольства ФРГ у Рэспубліке Беларусь.
- Праграма “Deutsch Express” – гэта бібліятэка на колах, якая дае магчымасць насельніцтву Беларусі пазнаёміцца з нямецкай культурай і мовай.
- Выкладанне беларускай мовы.

# Instytut Polski (Польскі Інстытут)

**Рэгіянальны офіс**
**Адрас:** Польскі Інстытут
вул. Валадарскага, 6, 220050, Мінск
**Тэл.:** +375 (17) 200-95-81, 200-63-78
**Факс:** +375 (17) 200-48-74
**Вэб-сайт:** www.instpol.by
**Эл.пошта:** minsk@instytutpolski.org

**Мэты дзейнасці Фонду:**
Польскі Інстытут ў Мінску быў заснаваны ў лютым 1994 года Міністэрствам замежных спраў Рэспублікі Польшча.
Інстытут мае дыпламатычны статус і ўваходзіць у лік польскіх інстытутаў, якія прадстаўляюць польскую культуру ў больш як 20 краінах свету, перад усім еўрапейскіх.
За дзесяцігадовы адрэзак працы ў Беларусі Польскі Інстытут не змяняў сваёй структуры і кірункаў дзейнасці. За гэты час Інстытут значна пашырыў карту культурнага супрацоўніцтва, а таксама свае інтэлектуальныя і тэхнічныя магчымасці.
Мэтай дзейнасці Польскага Інстытута ў Мінску з'уляецца распаўсюджванне дасягненняў польскай культуры і навуковага жыцця, пашырэнне ведаў пра польскую культуру сярод беларусаў, а таксама развіццё кантактаў, абмен вопытам і падтрымка дыялогу паміж польскімі і беларускімі прадстаўнікамі навукі, літаратуры, мастацтва, кіно, тэатра і музыкі.

**Накірункі дзейнасці, якія падтрымлівае Фонд:**
- сумесная арганізацыя семінараў, канферэнцый і лекцый з удзелам польскіх вучоных, спецыялістаў і экспертаў у розных галінах навукі, чыноўнікаў устаноў культуры і дзеячоў грамадскага жыцця;
- падтрымка выдання перакладаў на беларускую мову польскай драматургіі, мастацкай і навуковай літаратуры;
- арганізацыя і правядзенне мастацкіх, археалагічных і фатаграфічных выстаў;
- сумесная арганізацыя і правядзенне канцэртаў класічнай і джазавай музыкі;
- знаёмства беларускіх гледачоў з пастаноўкамі польскіх тэатраў і рэжысёраў;
- кінапрэм'еры і відэапаказы фільмаў на польскай мове.

**Віды падтрымкі:**
Польскі Інстытут у Мінску не з'яўляецца грантадаўцам.
Інстытут аказвае фінансавую падтрымку пры запрашэнні гасцей з Польшчы.
Польскі Інстытут адкрыты для новых ідэй і праектаў у галіне мастацтва, літаратуры, музыкі, кіно, тэатра, навукі і зацікаўлены ў пашырэнні кола партнёраў.
Інстытут арганізуе бясплатныя курсы польскай мовы.

**Куды звяртацца:**
Польскі Інстытут, вул. Валадарскага, 6, 220050, Мінск
Тэл.: +375 (17) 200-95-81, 200-63-78
Факс: +375 (17) 200-48-74
Эл.пошта: minsk@instytutpolski.org

## Internationale Bildungs-Und Begegnungsstatte in Minsk (IBB) (Міжнародны адукацыйны цэнтр (МОЦ-Мінск))

**Паштовы адрас:**
Газеты "Праўда", 11
220116 Мінск, Беларусь
**Тэл.:** +375 17-270-39-94
**Факс:** + 375 17-270-39-95
**Вэб-сайт:** http://www.ibb.by/
**Эл.пошта:** гл. старонку http://ibb.by/ru/contacts

**Мэты дзейнасці Фонду:**
МОЦ-Мінск імя Йоханеса Раў – гэта сумесны нямецка-беларускі праект. Створаны па прыкладу нямецкай Акадэміі адукацыі, Міжнародны адукацыйны цэнтр пачаў працаваць у Мінску ў 1994 годзе.
МОЦ-Мінск імя Йоханеса Раў сягоння – гэта:

- адукацыйны і канферэнц-цэнтр для прадстаўнікоў Усходу і Захаду, адзін з дамоў у "агульным еўрапейскім доме";
- месца сустрэчы бізнесоўцаў, грамадскіх аб'яднанняў, творчых людзей;
- лабараторыя ідэй у сферах гісторыі, эканомікі, палітыкі, аховы навакольнага асяроддзя.

**Накірункі дзейнасці, якія падтрымлівае Фонд:**
Міжнародны адукацыйны цэнтр праводзіць уласныя адукацыйныя мерапрыемствы на ўласныя сродкі і сродкі спонсараў.
Сягоння асноўны акцэнт у адукацыйнай дзеянасці Цэнтру робіцца на наступных тэмах:

- узаемаразуменне і прымірэнне
- Беларусь і Еўропа
- сродкі масавай інфармацыі
- царква і грамадства
- чалавек і навакольнае асяроддзе
- Арганізацыя **адукацыйных паездак** для нямецкіх груп.

Разам с Дортмундскім Міжнародным адукацыйным цэнтрам МОЦ-Мінск штогод арганізуе партнёрскія канферэнцыі для грамадскіх аб'яднанняў і ініцыятыў з Германіі і Беларусі, каардынуе рэалізацыю Праграмы падтрымкі Беларусі федэральнага ўраду Германіі.

## United Nations Children's Fund (UNICEF)
## (Дзіцячы фонд ААН (ЮНІСЕФ)

**Паштовы адрас:**
Прадстаўніцтва Дзіцячага фонду ААН (ЮНІСЕФ) у Рэспубліцы Беларусь
вул. Кірава, 7
220050 Мінск, Беларусь
**Тэл.:** +375 (17) 227 78 22
**Факс:** +375 (17) 210-26-50
**Вэб-сайт:** www.unicef.org
**Эл.пошта:** minsk@unicef.org

**Мэты дзейнасці Фонду:**
Дзейнасць Фонду накіравана на абарону дзяцей, садзейнічанне задавальненню іх асноўных патрэб і пашырэнню магчымасцей для ўсебаковага развіцця іх патэнцыялу. Прадстаўніцтва Дзіцячага фонду ААН (ЮНІСЕФ) у Рэспубліцы Беларусь садзейнічае рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі па паляпшэнню становішча дзяцей і забеспячэнню іх права на выжыванне, развіццё, абарону і ўдзел. Асобая ўвага надзяляецца ахове найбольш неабароненых групп: дзяцей-сірот; дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў; дзяцей, якія знаходзяцца на выхаванні ў інтэрнатных установах; дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця; дзяцей, якія знаходзяцца ў канфлікце з законам.

ЮНІСЕФ дзейнічае ў супрацоўніцтве з Міністэрствам адукацыі, Міністэрствам аховы здароўʼя, Міністэрствам працы і сацыяльнай абароны, Міністэрствам унутраных спраў.

**Накірункі дзейнасці, якія падтрымлівае Фонд:**
Падтрымка ажыццяўляецца ў рамках праграм:
- развіццё дзяцей ў раннім узросце;
- здароўʼе і развіццё дзяцей і моладзі, прафілактыка ВІЧ/СНІД;
- ахова правоў дзяцей;
- міжсектарнае супрацоўніцтва

**Віды падтрымкі:**
Гранты

**Памер гранта:**
Не больш за 100 000 долараў ЗША
Сафінансаванне з боку атрымальніка гранту неабавязковае.

**Як падаваць заяўку:**
Заяўка падаецца ў два этапы. Спачатку неабходна падаць прапанову ў выглядзе праектнай ідэі ці ў адвольнай форме. Праектная ідэя павінна адпавядаць нацыянальным інтэрэсам, садзейнічаць рэалізацыі міжнародных абавязкаў Рэспублікі Беларусь, мець інавацыйны характар, адпавядаць крытэрыям устойлівасці, мець патэнцыял для наступнага ўзнаўлення на рэгіянальным і нацыянальным узроўнях. Прымаюцца таксама прапановы па ўдасканаленню заканадаўчай базы і ўзмацненню ўзаемадзеянна паміж установамі, якія маюць

патэнцыял для сістэмных змен з мэтай забеспячэння абароны дзяцей у Рэспубліцы Беларусь.

Калі праектная прапанова узгоднена і прынята рашэнне аб магчымым фінансаванні праекту, афармляецца праектны дакумент на рускай мове ў двух варыянтах:

1) у адпаведнасці з патрабаваннямі Міністэрства эканомікі (пастанаўленне Міністэрства эканомікі ад 11 мая 2005 № 86 “Аб падрыхтоўке атрымальнікамі міжнароднай тэхнічнай дапамогі праектных прапаноў і тэхнічных характарыстык праектаў (праграм) зазначанай дапамогі”;
2) у адпаведнасці з патрабаваннямі ЮНІСЕФ па спецыяльнай форме.

**Куды адсылаць заяўку:**
Пасля афармлення заяўкі праектную прапанову неабходна ўзгадніць з адпаведным Міністэрствам, якое накіроўвае ў ЮНІСЕФ запрос на фінансаванне. У адказ ЮНІСЕФ афармляе абавязацельства аб выдзяленні сродкаў на фінансаванне праекту.

# US Embassy Small Grants Program
# (Праграма малых грантаў Амбасады ЗША ў Беларусі

**Паштовы адрас:**
Аддзел інфармацыі, адукацыі і культуры
Амбасада ЗША, Мінск
Вул. Герцэна, 2а
220030 Мінск
**Тэл.:** (017) 04-81; 211-0567
**Факс:** (017) 211 0384
**Вэб-сайт:** http://minsk.usembassy.gov/
http://belarusian.minsk.usembassy.gov/small_grants.html
**Эл.пошта:** DFSGP@usembassy.minsk.by

**Мэты дзейнасці Фонду:**
Мэта праграмы – падтрымка развіцця грамадзянскай супольнасці

**Накірункі дзейнасці, якія падтрымлівае Фонд:**
Праграма зацікаўлена ў праектах, якія спрыяюць:
- грамадскаму дыялогу
- ахове і падтрымцы грамадскіх інтарэсаў
- сацыяльнаму развіццю і ўзмацненню мясцовых супольнасцяў
- мясцоваму самакіраванню
- інтэграцыі сацыяльна неабароненых груп насельніцтва
- гендэрнай роўнасці
- рэформам рынкавай эканомікі
- захаванню культурнай і прыроднай спадчыны, у тым ліку вырашэнню экалагічных і чарнобыльскіх праблем.

Праекты, якія прадугледжваюць найбольшую колькасць карыстальнікаў, спрыяюць супрацоўніцтву з іншымі арганізацыямі, уключаюць супрацоўніцтва з мясцовымі дзяржаўнымі ўстановамі ці камерцыйнымі арганізацыямі, а таксама прадугледжваюць унёсак з іншых крыніцаў, будуць мець сур'ёзную перавагу.

**Віды падтрымкі:**
Гранты

**Як падаваць заяўку:**
Формы заявак і інструкцыі можна знайсці тут. Папяровыя бланкі можна атрымаць у офісе ў Мінску на вул. Герцэна 2а.
Заяўкі прымаюцца на працягу ўсяго года.

## World Bank (Сусветны банк)

**Паштовы адрас:**
Прадстаўніцтва Сусветнага банку ў Беларусі:
Вул. Герцэна, 2-А
220030 Мінск
**Тэл.:** +375-17 226-52-84
**Факс:** +375-17 211-03-14
**Вэб-сайт:** www.worldbank.org.by
**Эл.почта:** binfo@worldbank.org

**Мэты дзейнасці Фонду:**
У 1983 годзе Сусветны Банк усталяваў Праграму малых грантаў (ПМГ) у падтрымку сваіх асноўных аперацый. Мэта стварэння Праграмы Малых Грантаў заключаецца ў забеспячэнні шырокамасштабнага дыялога і распаўсюджванні інфармацыі аб міжнародным развіцці.

**Накірункі дзейнасці, якія падтрымлівае Фонд:**
Фонд сацыяльнага развіцця (былая праграма малых грантаў) для няўрадавых арганізацый падтрымлівае мерапрыемствы, накіраваныя на развіццё шырокамасштабнага дыялогу і прыцягненне ўсіх зацікаўленых бакоў да рашэння мясцовых пытанняў развіцця.

**Віды падтрымкі:**
- Гранты

**Не падтрымліваюцца:**
- Праграмы навуковых даследванняў
- Навучанне ў ВНУ Беларусі і замежжа, замежныя паездкі
- Бягучыя адміністратыўныя выдаткі арганізацый
- Закупка абсталявання
- Будаўнічыя/рамонтныя работы

**Як падаваць заяўку:**
Праграма малых грантаў Сусветнага Банка не мае афіцыйнай формы заяўкі, але любы зварот павінен змяшчаць наступнае:
1. Назва арганізацыі
2. Асоба для кантактаў, пасада
3. Паштовы адрас
4. Тэлефон, факс, e-mail, website (калі існуе)
5. Мэты арганізацыі
6. Назва праекта
7. Аўдыторыя, на якую накіраваны праект .
8. Тэрмін рэалізацыі праекта
9. Сума, якую арганізацыя просіць у Сусветнага банка
10. Агульная сума праекта
11. Назвы арганізацый-партнёраў
12. Дадзеныя пра арганізацыю (дата рэгістрацыі, разліковы рахунак)
13 Дата заяўкі

14 Імя і подпіс караўніка арганізацыі
15 Падрабязнае апісанне праекту
15 Падрабязны бюджэт праекту

**Тэрмін разгляду заявак**: Інфармацыя размяшчаецца на сайце Сусветнага банку

**Куды адсылаць заяўку:**
Прадстаўніцтва Сусветнага банку ў Беларусі:
Вул. Герцэна, 2-А,
220030, Мінск
**Эл.почта:** binfo@worldbank.org

# БЕЛАРУСКІЯ ДАБРАЧЫННЫЯ ФОНДЫ

## Chance International Children's Charity Foundation (Міжнародны дабрачынны фонд дапамогі дзецям «Шанс»)

**Паштовы адрас:**
Вул. Домброўская, 9
Вежа 2, паверх 13
220140 Мінск
**Тэл.:** + 375 17 388 01423
**Маб.:** + 375 44 711 11 17
**Факс:** + 375 17 388 01 42
**Вэб-сайт:** http://www.chance.by
**Эл.пошта:** info@chance.by; help@chance.by; dar@chance.by

**Мэты дзейнасці Фонду:**
Дабрачынная і сацыяльная дзейнасць, накіраваная на аказанне дапамогі і аплату лячэння хворых дзяцей у выпадках, калі высокакваліфікаваная і своечасовая медыцынская дапамога па нейкіх абставінах не можа быць аказана дзяржаўнымі медыцынскімі ўстановамі ці аплачана за кошт бюджэтных сродкаў.

**Накірункі дзейнасці Фонду:**
- Бязвыплатная адрасная дапамога хворым дзецям, якая прадугледжвае аплату кошту лекавання, аперацый, знаходжання ў медыцынскай установе, мерапрыемстваў па рэабілітацыі;
- Дапамога ў набыцці лекавых сродкаў і медыцынскай тэхнікі для хворых дзяцей.

**Задачы фонду**
- Садзейнічанне ў аказанні высокакваліфікаванай дапамогі хворым дзецям;
- Арганізацыя збору сродкаў (ахвяраванняў) для лячэння хворых дзяцей;
- Прапаганда ў грамадстве ідэалаў міласэрнасці, спачування і дабрачыннасці;
- Прыцягненне да дзейнасці Фонду максімальна шырокага колу грамадзян і арганізацый з мэтай бесперапыннага росту сродкаў, якія накіроўваюцца для лячэння хворых дзяцей.

**Праграмы Фонду**
- Праграма "Шанс"
- Праграма "Лекі і медыцынская тэхніка"
- Праграма "Здаровае сэрца"

**Умовы ўключэння ў праграму:**
- узрост дзіцяці ад 2 да 16 поўных гадоў;
- дзіця павінна быць грамадзянінам/грамадзянкай Рэспублікі Беларусь;
- прадказальныя (магчымыя) станоўчыя вынікі лячэння і дыягностыкі; хвароба паддаецца лячэнню ці ёсць шанс, што дзіця папраўіцца;
- адсутнасць магчымасці аплаты лячэня бацькамі:
  - сям'я хворага дзіцяці з'яўляецца малазабяспечанай;

- сям'я не з'яўляецца малазабяспечанай, але з прычыны захворвання дзіцяці большасць заробкаў сям'і затрачваецца на патрэбы, звязаныя з лячэннем дзіцяці;
- хворае дзіця ў гэты час не падтрымліваецца ніводнай з існуючых праграм па збору сродкаў для аплаты лячэння ці іншых патрэбаў, арганізаваных апроч Фонду;
- наяўнасць неабходных медыцынскіх дакументаў;
- наяўнасць сродкаў у Фондзе;
- кваліфікаваная своечасовая медыцынская дапамога па нейкіх абставінах не можа быць аказана дзяржаўнымі медыцынскімі ўстановамі Рэспублікі Беларусь ці аплачана за кошт бюджэтных сродкаў, ці адсутнічаюць неабходныя мецыцынскія матэрыялы для лячэння дзіцяці.

**Дакументы для ўдзелу ў праграме**
Дапамога аказваецца на аснове заяў фізічных і юрыдычных асобаў, якія звярнуліся ў Фонд за дапамогай. Да заявы неабходна прыкласці шэраг дакументаў (падабязней глядзі інфармацыю на сайце Фонду:
http://www.chance.by/important/nuzhnapomosch/).
Рашэнне аб аказанні дапамогі прымаецца Праўленнем і Апякунскім Саветам Фонду.
Выкананне ўсіх патрабаванняў не азначае, што рашэнне аб аказанні дапамогі будзе прынята аўтаматычна. Рашэнне прымаецца ў кожным канкрэтным выпадку.

**Вы жадаеце аказаць фінансавую дапамогу дзецям**
Можна выбраць наступныя варыянты аказання фінансавай дапамогі:
- аказанне бязвыплатнай адраснай дапамогі канкрэтнаму цяжка хвораму дзіцяці на дабрачынны рахунак Фонду з адзнакай у графе "мэта плацяжу" – "ахвяраванне на лячэнне дзіцяці *Імя, Прозвішча*";
- аказанне бязвыплатнай адраснай дапамогі ўсім цяжка хворым дзецям на дабрачынны рахунак Фонду з адзнакай у графе "мэта плацяжу" – "ахвяраванне на лячэнне дзяцей".

Вы можаце выбраць наступныя варыянты аказання дабрачыннай дапамогі:
- Банкаўскі пералік (спампаваць квітанцыю)
- Юрыдычным асобам
- Электронныя грошы EasyPay
- Уладальнікам карт ААТ "Белгазпрамбанк"
- Аплата банкаўскай картай
- SMS-ахвяраванне
- Электронны кашалёк WebMoney
- Міжнародны перавод
- Грашовы перавод праз аддзяленні РУП «Белпошта»

Даведачнае выданне

**Падтрымка грамадзянскай супольнасці на Беларусі:**
Даведнік грантадаўцаў
Мінск, 2012. – 99 с.

Праект БРГА “Аб’яднаны шлях”

Даведнік утрымлівае інфармацыю аб 67 фондах і арганізацыях, якія аказваюць фінансавую і іншыя віды падтрымкі беларускім грамадскім аб’яднанням.

Распаўсюджваецца **БЯСПЛАТНА** на правах унутранай дакументацыі.

Выпуск 1: 150 экз.